


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 42(376)** **28 КАСТРЫЧНІКА 1998 г.**


## Дзяды, мы клічам вас



### ДЗЯДАМ

У дзень святых дзядоў
З-за далечы гадоў
Прыдзіце продкі нашы,
Прыдзіце з-пад Стажар
І плюньце гідка ў твар
Нам, нізка гэдак паўшым.

Прыдзі, князь Усяслаў,
Ты дню не дазваляў,
Пабыць у нас няволі.
Прыдзі, князь Рагвалод,
Бо твой магутны род
Не ўстане ўжо ніколі.

І ты прыдзі Вітаўт,
І твой хай прыдзе брат,
Вы шыяў не хілілі
Вы самі кожны год
На захад і на ўсход
Са славаю хадзілі.

Прыдзі, князь Гедзімін,
Прыдзі ж ты не адзін,
Тут маеш шмат работы.
Прыдзіце ваяры,
Што леглі без пары
Па пушчах і балотах.

Прыдзі і ты, Кастусь,
Паглянь на Беларусь,
Змахні слязу рукою.
За гэты вось народ
Ты стаў на эшафот
І шлюб узяў з пятлёю.

За гэты вось народ,
За гэты бляклы зброд
Бязродных папугаяў...
Прыдзіце сёння ўсе,
Хто ў сэрцы боль нясе,
За лёс прадзедаў краю.

Без вас нам не здалець,
Без вас не ацалець
У бітве з недавяркам,
Што хоча нас зламаць,
Што хоча нас трымаць
З навек сагнутым каркам

Прыдзіце, ваяры,
І гнеў хай узгарыць
У тысячах агнісак.
Мы прымем той пажар,
Як шчодры божы дар,
І кінем душы ў прысак.

І зноў меч у руках,
І прэч халопскі страх,
І пад абцас бязвер'е.
Прыдзіце ўсе, дзяды,
І мы з хваста ў бяды
Парвём арліных пер'яў.
1.11.95 г.

***Станіслаў Суднік***

## Мітынг за мову

22 кастрыччніка з 17.30 да 19.00 на плтошчы Якуба Коласа ТБМ і моладзевая арганізацыя "Хлоя" ладзілі мітынг у абарону беларускай мовы і беларускамоўнай адукацыі. На мітынгу выступілі: Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Міхась Скобла, Вольга Кузьміч, Марыя Міцкевіч (унучка Якуба Коласа), Янка Запруднік з ЗША і інш. На Мітынгу прыняты рэзалюцыі і звароты, якія будуць апублікаваны пазней.

## Памяці Каліноўскіх

25 кастрычніка ў Свіслачы адбыўся традыцыйны ўжо фэст па ўшанаванню памяці Віктара Каліноўскага , а рвзам і Кастуся Каліноўскага і ўсіх Каліноўскіх..Невялічкі, безумоўна, нікім не дазволлены мітынг на магіле Віктара Каліноўскага яшчэ раз высвеціў адносіны беларусаў да гэтага роду. Зміцер Кісель справядліва зазначыў, што ворагі Беларушчыны імкнуліся пазбавіць нас не толькі жывых змагароў за Беларусь, але нават іхніх магіл. Сапраўды, дзе магіла Кастуся Каліноўскага? Ніхто не ведае. А вось магіла Віктара Каліноўскага вядомая і да гэтай магілы 25 кастрычніка з'ехаліся людзі з Гародні, Ліды, Зэльвы, Менску, Гомеля. Прафесар Аляксей Пяткевіч азначыў ролю Віктара Каліноўскага, старэйшага брата Кастуся Каліноўскага, як ідэолага беларускай плыні паўстання 1863 года. Без Віктара не было б і Кастуся. Ролю і долю Віктара Каліноўскага ў гісторыі Беларусі яшчэ трэба ўсведамляць і ўсведамляць.Данута Бічэль-Загнетава чытала свае вершы. Ніна Каліноўская з Ліды дзякавала людзям за памяць пра яе сваякоў. Дарэчы, яна паказвала здымкі ажно трох Кастусёў Каліноўскіх. Малодшаму з іх, які жыве недзе ў Новачаркаску гадоў дзесяць, але традыцыя роду вымагае называць усіх хлопцаў Кастусямі. Так, па меры магчымасці і робяць. Мясцовыя бабкі абзывалі сабраўшыхся каля магілы немцамі. Бог з імі.



Ніна Каліноўская каля магілы Віктара Каліноўскага

У Якушоўцы, каля падмурку хаты Каліноўскіх жалобны настрой быў зменены на патэтычны. Баявыя вершы чытаў Станіслаў Суднік. Яшчэ больш баявыя песні спявалі Віктар Шалкевіч, Андрэй Мельнікаў, Валеры Жамойцін, Хільмановіч і інш.Дзякуй богу памяць пра Каліноўскіх жыве. То жыве Беларусь.

Ладзіла імпрэзу Гарадзенская філія Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Падтрымлівала Лідская гарадская рада БНФ "Адраджэнне".

**З А Я В А канферэнцыі Рады ТБМ і Рады БНФ імя Т.Касцюшкі Кастрычніцкага р-на г.Менска.**

## Аб сучасным стане беларускай мовы як падмурка нацыянальнай культуры.

Два стагоддзі каланізацыі Беларусі Расейскай імперыяй — гэта раз'ятраная, няспынная барацьба акупантаў з беларускай нацыянальнай культурай і, найперш, мовай дзеля канчатковай асіміляцыі беларускага народу і беззваротнай анэксіі тэрыторыі Беларусі.

Мужнае змаганне беларускага народа за волю Радзімы пазначана слаўнымі вехамі і паўстанне Т.Касцюшкі 1794 г.; змаганне беларускіх вояў супраць Расейскай імперыі ў 1812 г.; паўстанне 1830 -31 гг.; паўстанне 1863 г. пад кіраўніцтвам нацыянальнага героя Беларусі К.Каліноўскага; утварэнне БНР у 1918 г.; Слуцкі чын 1921г.; народнае паўстанне на тэрыторыі Віцебскай і Смаленскай вобл. 1925 - 1932 г.; утварэнне БНФ у 1988 г.; подзвігі героя-беларуса Мірона і іншых сталых і зусім маладых беларусаў у час панавання акупацыйнага рэжыму Лукашэнкі.

Добра ўсведамляючы, што канчатковае прыгнечанне народу магчымае толькі пры поўным знішчэнні яго нацыянальнай свядомасьці і адметнасці, рэжым Лукашэнкі, выконваючы волю Маскоўскага імперыялізму, раз'юшана вынішчае ўсё беларускае і, найперш, мову.

Так, пасля кароткага, але магутнага штуршка нацыянальнана адраджэння, на 1994 г. па Беларусі школьнікаў, якія вучыліся на роднай мове, было 70% ад агульнай колькасці. А за 4 гады лукашэнкаўскага гвалу на 1998 год засталося толькі 28,7%. Толькі ў Менску за апошнія тры гады зліквіда-вана 1000 беларускіх класаў. За два апошнія гады беларус-кіх школ у краіне паменшылася на 190, у той жа час расейскіх пабольшылася на 540. Такім чынам, рэжым знішчае самыя жыццяздольныя карані нашай культуры- нацыянальную школу.

Такога нахабнага, цынічнага, раз'юшанага наступу на беларускую мову, культуру, які развязаў сучасны рэжым, не дазвалялі сабе нават маскоўскія бальшавікі. Ідзе гвалтоўная мэтанакіраванае знішчэнне беларусаў як этнасу.

Канферэнцыя рашуча заяўляе :

1. Толькі тэрміновае адхіленне ад улады сучаснага акупацыйнага рэжыму выратуе беларускую мову, культуру, беларускі народ як этнас, Беларусь як незалежную Дзяржаву.

2. Мы заклікаем усе дэмакратычныя сілы Беларусі, усіх беларусаў, усіх добрасумленных людзей да аб'яднання ў барацьбе са злачынным рэжымам за выратаванне нашай Бацькаўшчыны.

3. Папярэджваем гр-на Лукашэнку і ўсіх без выключэньня, хто з ім супрацоўнічае, што этнацыд беларускай нацыі - злачынства, якое не мае тэрміну даўнасці.

Прынята 15 кастрычніка 1998 года ў г.Менску.

## ПАДПІСКА — 98 НАС АМАЛЬ 1500

Падпіска на газету "Наша слова" ў кастрычніку складала 1470 асобнікаў. Для тых, хто сочыць за развіццём газеты "Наша слова" ў Лідзе гэтая лічба нешта кажа. Будучы стратнай і існуючы толькі на грошы ахвярадаўцаў, не маючы да гэтага часу ні аднаго сталага супрацоўніка, газета "Наша слова" за 9 месяцаў амаль патроіла колькасць падпішчыкаў. Разам з тым мы рэзка змяншалі продаж у розніцы, за кошт чаго фактычна трымалі даволі стабільны наклад ад 2500 да 3500 у залежнасці ад сітуацыі.

Калі б удалося адсачыць усе 117 раёнаў Беларусі па продажу газеты гэтак жа, як мы іх адсочваем па падпісцы, то мы б змаглі падкарэктаваць сітуацыю, але на жаль атрымаць звесткі пра продаж уласнай газеты ў нас цяжэй чым нейкую пікантную падрабязнасйць пра Моніку Левінскі.

Мы злёгку паднялі цану. Гэты пад'ём нам нічога не дае. Не дае ён і вялікіх стратаў падпішчыкам. Проста мода зараз такая, што цэны павінны расці. Газета існавала і будзе існаваць толькі на вашыя грошы, шаноўныя чытачы. Гэтых грошай заўжды мала, але іншага выйсця мы не маем.

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865**
індэкс выдання

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 1999 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

**Куды**
(паштовы індэкс) (адрас)
**Каму**
(прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету/часопіс **63865**
( індэкс выдання )

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 45000 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1999 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)
Каму
(прозвішча,ініцыялы)

**Анатоль Грыцкевіч,** *доктар гістарычных навук, прафесар*

# 10 гадоў Беларускаму Народнаму Фронту.



19 кастрычніка 1988 года ў будынку Чырвонага касцёла ў Менску на сходзе творчай інтэлігенцыі і прадстаўнікоў іншых груп беларускай грамадскасці позьнім вечарам, пасля заснавння таварыства "Мартыралог Беларусі", быў абраны Арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" з 32 чалавек. У лістападзе 1988 г. старшынёй Аргкамітэта быў абраны Зянон Пазьняк. Так пачалася гісторыя БНФ. гісторыя нацыянальна-вызвольнага руху ў Беларусі напрыканцы XX стагоддзя.

Адразу пасля ўтварэньня Аргкамітэта БНФ пачалі стварацца нізавыя суполкі Фронту — групы падтрымкі БНФ на прадпрыемствах, установах і па месцу жыхарства. Хутка групы падтрымкі ператварыліся ў мясцовыя арганізацыі на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Устаноўчы зьезд БНФ адбыўся 24-25 чэрвеня 1989 г. у Вільні. Ад таго часу БНФ актыўна дзейнічае ў палітычным жыцці краіны. БНФ, як грамадска-палітычны рух, які выступае за незалежную Беларусь, адраджэньне беларускай нацыі на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму, ад самага пачатку свайго існавання выступаў супраць дыктатуры камуністычнай наменклатуры ў барацьбе за дзяржаўную незалежнасць Беларусі. БНФ быў першым у нашай краіне грамадска- палітычным рухам, які адкрыта выступіў за пераўтварэньне грамадства з таталітарнага ў дэмакратычнае. БНФ стаўся першай і галоўнай апазіцыйнай палітычнай сілай у нашай краіне. Іншыя палітычныя групоўкі і партыі ўтвараліся пазьней, а некаторыя і на падставе фронту.

Народныя франты ствараліся падчас перабудовы ў іншых рэспубліках былога Савецкага Саюза, нават у расейскіх рэгіёнах. Але яны хутка распаліся, альбо пераўтварыліся ў іншыя партыі. Больш дзейсна народныя франты дзейнічалі ў балтыйскіх рэспубліках, дзе дамагаліся поўнай незалежнасці сваіх краін. Іншыя ж квазіапазіцыйныя аб'яднаньні і партыі ў былым СССР у апошні перыяд яго існаваньня ўтвараліся не без дапамогі самой наменклатуры і яе спецслужбаў.

БНФ быў створаны без удзелу наменклатуры і насуперак ёй. Таму ён з самых першых дзён дзейнасці аргкамітэту выклікаў хвалю укаваньня і праследу з боку ўрадавых і кампартыйных структураў, што працягваецца і пры цяперашняй намеклатуры.

БНФ утварыўся на падставе дасведчаньня вызваленчых традыцый у гісторыі адраджэнскага руху. Яго ідэйнымі папярэднікамі былі беларускія дэмакраты - адраджэнцы пачатку XX стагоддзя, дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі, героі барацьбы за незалежнасць краіны ў 1920 г., перш за ўсё ўдзельнікі Слуцкага збройнага чыну, дзеячы Рады БНР у эміграцыі, якія захавалі ідэі незалежнасьці і дзяржаўнасьці Беларусі, усе беларускія патрыёты. Ідэал нацыянальнай дэмкратыі з'яўляецца сэнсавым зместам беларускай нацыянальнай ідэі, здольнай згуртаваць вакол сябе ўсе патрыятычныя сілы.

Сама назва Народны Фронт мае таксама свае гістарычныя карані. У 30-я гады нашага стагоддзя так называліся ў некаторых еўрапейскіх краінах (перш за ўсё ў Францыі і Іспаніі) народныя рухі і аб'яднанні, якія выступалі супраць фашызму, супраць дыктатуры, за мір, за дэмакратыю і за нацыянальную незалежнасць. Гэта былі аб'яднанні палітычных партый і грамадскіўх арганізацый, якія існавалі ў многіх краінах Еўропы, Лацінскай Амерыкі і ў Азіі, дзе яны прымалі форму нацыянальных франтоў у барацьбе за незалежнасць. Як бачым, Беларускі Народны Фронт — не адзіная палітычная сіла такога кшталту.

10 гадоў дзейнасці БНФ — гэта дзесяцігоддзе пастаяннага змагання, пастаяннай штодзённай працы ў розных кірунках, ад палітычнага да асветніцкага і культурнага. БНФ мае досвед і дасведчанасць парламенцкай працы. Дзякуючы апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце былі прынятыя вельмі важныя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь, пачынаючы з Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі 1990 года і наданні гэтай Дэкларацыі 25 жніўня 1991 г. канстытуцыйнага статусу.

Беларускі Народны Фронт мае досвед палітычнай барацьбы. Пяць з'ездаў БНФ выпрацавалі праграмныя і тактычныя дакументы, статут, паводле якіх ідзе праца ўсіх суполак у рэгіёнах і ў кіраўнічых структурах Фронту. Арганізацыйная праца БНФ заснаваная на дэмакратычных прынцыпах. Мы маем і маладзёвую арганізацыю — Малады Фронт, дзе згуртаваная патрыятычная моладзь, якая працягвае традыцыі нацыянальна-вызвольнага руху.

Марыянеткавы прарасійскі рэжым у Беларусі праводзіць палітыку "інтэграцыі" Беларусі і Расеі, а дакладней знішчэньне Беларусі, як самастойнай дзяржавы. Гэтая пагроза навісла над беларускім народам. І барацьба супраць яе з'яўляецца галоўным кірункам у нашай працы. Усе нашыя дзеянні перш за ўсё скіраваныя супраць гэтай небяспечнай пагрозы. Мы ўсведамляем яе і зробім усё магчымае, каб яе прадухіліць.

У гэты дзень юбілею БНФ хочацца адзначыць работу ўсіх актывістаў і прыхільнікаў Беларускага Народнага Фронту і павіншаваць іх з 10-годдзем БНФ. Наша праца накіраваная за дасягненьне сапраўднай незалежнасці Беларусі, за пабудову дэмакратычнай вольнай краіны, з адроджанай нашай культурай і беларускай мовай, за роўнасць усіх грамадзян Беларусі, незалежна ад нацыянальнасьці, за адраджэньне духоўнасьці і роўнасць канфесій, за "пачэсны пасад між народамі". У гэтай нашай дзейнасьці мы пераможам.

Жыве Беларусь!

19 кастрычніка 1998 г.

*Доктар філалагічных навук, прафесар* **Іван Лепешаў**

# "РУКУ ПРАВУЮ ПОТЕШИТЬ ..."



Калі "Наша слова" (26.08.98г) апублікавала мой артыкул "І яшчэ трохі пра Пушкіна", я, прызнацца, чакаў, што будзе хоць колькі адмоўных водгукаў. Але не дачакаўся, бо, відаць, усе нашы чытачы хоць, на жаль, і нешматлікія, але аднадумцы.

Затое ў тугэйшым знаёмым асяроддзі па-рознаму ўспрынялі надрукаванае.

Былі і такія дзівацкія рэплікі, далекаватыя ад сутнасці пытання: "А навошта вам было ўспамінаць Дастаеўскага? Гэта ж псіх!" Вось ён — адзін з ярлыкоў, прышытых вялікаму пісьменніку школьнымі, інстытуцкімі ці яшчэ якімі працаўнікамі ідэалагічнага фронту. Я мусіў сказаць: "Напішыце хоць адзін абзац так, як Дастаеўскі, і тады можна рабіць экспертызу псіхічных здольнасцяў".

Некаторыя гаварылі, што ў любога пісьменніка можна пры вялікім жаданні знайсці розныя хібы і заблуджэнні і што я, маўляў, панавыкопваў з твораў Пушкіна ўсё сапраўды непрыглядпае, якое паказвае паэта без прывычнага хрэстаматыйнага глянцу. Не! Па-першае, далёка не ў кожнага пісьменніка знойдзеш падобнае, а па-другое, я выбраў і падаў толькі нязначную долю таго, што можна было б падаць.

У шмат якіх іншых творах Пушкіна, не названых у папярэднім артыкуле, можна няўзброеным вокам бачыць тую ж самую непахіснасць ягоных імперскіх перакананняў, непрымальных для чалавека з не "саўковым" здумленнем. Не будзем забываць, што свой жыццёвы шлях паэт закончыў у падараваным яму царом яшчэ ў 1833 г. прыдворным званні "камер-юнкера Яго Імператарскай Вялікасці". Здаецца, пасля Пушкіна ніхто з пісьменнікаў не меў прыдворных званняў.

У манаграфіях, артыкулах, падручніках сцвярджаецца, што пушкінская творчасць "садзейнічае ўмацаванню дружбы паміж народамі нашай вялікай краіны". А чытаючы творы пісьменніка, натыкаешся на ягонае высакамернае, пагардлівае стаўленне да розных татараў, башкіраў, чэркесаў і інш.

Вуснамі свайго станоўчага героя з аповесці "Капітанская дочка" пісьменнік гаворыць, што нядаўна далучаная да імперыі вялізная і багатая Арэнбургская губерня "обитаема была множеством полудиких народов" і што іх "штохвіліннае абурэнне", "легкадумнасць і жорсткасць патрабавалі з боку ўрада бесперапыннага нагляду для ўтрымання іх у падпарадкаванні".

І сёння ў нашых школах, у 5 класе, вывучаецца "Сказка о мёртвой царевне и семи богатырях". Яна змешчаная ў падручніку-хрэстаматыі, падрыхтаванай беларускімі аўтарамі (Т.Мушынская і інш.) і выдадзенай у Менску. Перад тэкстам твора гаворыцца, што ў пушкінскіх казках прываблівае не толькі фабула, але найперш "маральны змест". Прыгадваем, які ж тут "маральны змест".

Маладая, прыгожая царэўна, асуджаная на смерць злоснай царыцай-мачахай, цудам выратоўваецца. Доўга праблукаўшы па лесе, яна заходзіць у церам. Гаспадароў дома няма , але царэўна зразумела, што "тут люди добрые живут". Праз нейкі час і яны з'яўляюцца — "семь богатырей, семь румяных усачей". Паводзяць яны сябе ў найвышэйшай ступені інтэлігента, па-джэнтэльменску і выклікаюць павагу ў чытача. Але паглядзім, чым яны займаюцца. Паэт як бы між іншым расказвае пра іх сталы занятак: **"Перад утренней зарёю братья дружною толпою выезжают погулять, серых уток пострелять, руку правую потешить, сорочина в поле спешить, иль башку с широких плеч у татарина отсечь, или вытравить из леса пятигорского черкеса".**

Аж мароз па целе прабягае ад гэтых радкоў, ад гэтакай пацехі правай рукі. До-о-обры занятак у гэтых "добрых людзей". І "маральны змест" казкі таксама, нічога не скажаш, "добранькі". Ніяк не кладуцца ў гэтую мараль адсечаная ў татарына "башка с широких плеч", забітыя сарачын і чаркес.

Можа ў падручніку пад тэкстам казкі ёсць якое-небудзь асуджэнне разбою? Не, няма. Ёсць толькі пытанні да вучняў: "Хто з герояў асабліва спадабаўся? Хто выклікаў у вас іншыя пачуцці? Менавіта якія? Як багатыры адносіліся да царэўны? Чаму? І ўсё. Каментары, як гаворыцца, лішнія.

У паэме "Полтава" паэт увесь час на баку цара Пятра Першага. І не асуджае яго нават за такі дзікі ўчынак. Аднойчы, яшчэ задоўга да Палтаўскай бітвы, гетман Украіны Мазепа баляваў з царом у ягонай стаўцы і "слова смелае сказаў". Суровы цар пры шматлікіх гасцях з пагрозай ўхапіў Мазепу за сівыя вусы. Перанёсшыся ў сённяшні час, няцяжка ўявіць, які быў бы сусветны рэзананс і адпаведная рэакцыя, калі б, скажам, Ельцын на віду ў людзей схапіў за вусы якога-небудзь губернатара ці саюзніка-прэзідэнта.

На тэрыторыі Еўропы, апрача славян (расейцы, украінцы, беларусы, палякі, чэхі, славакі, харваты, славенцы, балгары, македонцы), жывуць яшчэ дзве вялікія групы роднасных народаў. Адна з іх — германская (англічане, немцы, галандцы, шведы, датчане, нарвежцы, ісландцы). Другая — раманская група (французы, італьянцы, іспанцы, партугальцы, румыны, малдаване). Але ніхто не чуў, каб які-небудзь англійскі дзяржаўны дзеяч ці пісьменнік змагаўся за аб'яднанне ўсіх германскіх народаў у адзін саюз. Больш таго, Англія і Германія як у першай, так і ў Другой сусветнай вайне былі не саюзнікамі, а супраціўнікамі. Гэтак жа сама ніколі не імкнуліся і не імкнуцца да аб'яднання французы з іспанцамі, італьянцамі і іншымі раманскімі народамі. А вось там, дзе ў модзе тэорыя панславізму, — там і дзяржаўныя дзеячы толькі і мараць пра саюз, федэрацыю ці канфедэрацыю, там і майстар прыгожага пісьменства думае пра час, калі ж "славянские ручьи сольются в русском море" (А.Пушкін). Ні Гётэ, ні Байран і ніхто іншы ніколі б падобнае не напісаў.

Чытачы майго артыкула пыталіся ў мяне, чаму Г.П.Фядотаў назваў Пушкіна "апошнім песняром Імперыі". Гэты выдатны расейскі гісторык і філасоф пісаў: "Пасля Пушкіна, пасварыўшыся з царамі, расійская інтэлігенцыя страціла смак да імперскіх праблем, да нацыянальных і міжнародных наогул ... Яна абуралася гвалтоўнай русіфікацыяй або хрышчэннем іншародцаў, але абурэнне адносілася да метадаў, а не да мэты. Асіміляцыя прымалася як непазбежны вынік цывілізацыі".

Можна, аднак, прыгадаць асобныя, хць і рэдкія выключэнні. Так, І.С.Аксакаў на старонках часопіса "Дни" горача падтрымліваў дзейнасць Мураўёва-Вешальніка ў "Северо-Западном Крае".

Быў аднойчы зрыў і ў М.А.Някрасава. Ратуючы ад закрыцця свой часопіс "Современник", ён 16 красавіка 1866 г., прыняўшы ўдзел у афіцыйным ушанаванні Мураўёва-Вешальніка, прачытаў у яго гонар хвалебны верш, які пачынаўся радкамі: "Бокал заздравный поднимая, еше раз выпить нам пора здоровья миротворца Края. Так много ж лет ему ! Ура!" Пасля, аднак, Някрасаў да скону дзён балюча перажываў свой дагаджальніцкі грэх. Ён пісаў: "Не торговал я лирой, но бывало, когда грозил неумолимый рок, у лиры звук неверный исторгала моя рука ..." Паэт не адзін раз раскайваўся ў сваім няправільным кроку.

У Пушкіна ж раскаяння не было. І не магло быць.

**В.І. Саітава**

## Часопіс "Ateneum wilenskie" — крыніца бібліяграфічнай інфармацыі аб Беларусі

*(Працяг. Пачатак у № 39-41)*

Паказальнік меў сістэматычную структуру, у якой былі вылучаны раздзелы (прыкладна 13), прысвечаныя адлюстраванню бібліяграфічных дапаможнікаў, рэцэнзій і крытычных матэрыялаў, літаратуры па дапаможных гістарычных дысцыплінах, аб навуковых установах, архівах, музеях, бібліятэках, выставах, з'ездах. Шэраг раздзелаў быў прысвечаны зместу гістарычных даследванняў: па археалогіі, геаграфіі, этнаграфіі, краязнаўству, палітычнай гісторыі, праву, суду, эканоміцы, гандлю, прамысловасці і сельскай гаспадарцы, асвеце, царкве, школьнай справе, мастацтву, войску, насельніцтву ў этнічным аспекце (былі выдзелены раздзелы прысвечаныя беларусам, караімам, літвінам, латышам, немцам, рускім, татарам, яўрэям). У асобных раздзелах адлюстроўваліся біяграфіі, успаміны, пісьмы, запіскі, а таксама мастацкая літаратура і сатыра. У раздзелах была прыменена алфавітная групоўка бібліяграфічных запісаў. Бібліяграфічныя апісанні рабіліся на мовах арыгіналу: польскай, нямецкай, французскай, літоўскай, англійскай і г.д., выданні на рускай, беларускай, украінскай мовах набіраліся лацінскім шрыфтам. Усяго ў "Бібліяграфіі гісторыі зямель б.В.Кс.Літоўскага га год ..." было адлюстравана 2075 дакументаў, прычым адбывалася пастаяннае значнае павялічэнне колькасці ўлічаных публікацый.

У кожным выпуску "Бібліяграфіі гісторыі зямель б.В.Кс.Літоўскага за год ..." даваліся звесткі аб кнігах і другіх дакументах, якія з'явіліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Гэта былі пераважна краязнаўчыя матэрыялы па гісторыі і сучаснасці, этнаграфіі, эканоміцы, турыстыцы і некаторых другіх галінах і тэмах, надрукаваныя ў Пінску, Брэсце, Слоніме, Навагрудку і другіх гарадах. Сярод іх такія кнігі, як Galasiewicz Celestyn " Ziemia nowogrodzka. Najpilniejsze gospodarcze i kulturalne potrzeby", Jodkowski Jozef " Swiatynia warowna na Kolozy w Grodnę w swietle badan archiwalnych i archeologicznyc, dokonanych w 1935 r." і іншыя. Наколькі ўважліва ставіўся С.Бурхардт да паўнаты ўліку краязнаўчых даследванняў, сведчыць бібліяграфаванне шэрагу друкаваных матэрыялаў краязнаўчага гуртка вучняў дзяржаўнай гімназіі ў Пінску.

Паказальнікі "Бібліяграфія гісторыі зямеля б. В.Кс.Літоўскага за год ..." перадрукоўваліся таксама ў выглядзе асобных адбіткаў, што таксама падцвярджае іх важнае значэнне для інфармацыйнага забяспячэння гістарычных даследванняў.

Некалькі паказальнікаў насілі вузкі тэматычны характар, напрыклад, "Бібліяграфія Віленскага універсітэта" М.Амброса (аб'ём 60 старонак). Адлюстроўваліся ўсе віды дакументаў за 1936-38 гг., прыменена дэталёвая гісторыка-сістэматычная групоўка матэрыяла. У ліку адлюстраваных дакументаў ёсць матэрыялы аб студэнтах Беларусі.

У раздзеле часопіса "Крытычны агляд" змяшчаліся рэцэнзіі, агляды, водгукі, рэфераты, рэфератыўныя анатацыі на новыя кнігі, перыядычныя выданні, артыкулы і другія дакументы, выдадзеныя ў Польшчы, БССР, СССР, Германіі, Літве і Латвіі, Чэхаславакіі, і звязаныя з яго змястоўнай накіраванасцю. Асобныя матэрыялы. як, напрыклад, водгук на кнігу Я.Якубоўскага "Томаш Макоўскі гравер і картограф нясвіжскі", напісаны на ўсіх канонах рэкамендацыйных анатацый. Разглядаючы кнігі, выпушчаныя ў БССР, на жаль, часта адзначалі вузасць крыніц даследванняў. Высокую адзнаку атрымаў толькі другі том "Беларускага архіва" Інбелкульта. Гэтыя бібліяграфічныя і асабліва крытычныя публікацыі змяшчаюць нямала аргументаў, доказаў ці абвяржэнняў, для абгрунтавання якіх таксама выкарыстоўвалася цытаванне і бібліяграфічныя спасылкі.

Разгледжаныя бібліяграфічныя матэрыялы, змешчаныя ў "Ateneum wilenskiem", фактычна заставаліся за межамі бібліяграфічнага крыніцазнаўства савецкага перыяду. Іх выкарыстанне бібліёграфамі і даследчыкамі будзе спрыяць аднаўленню парушаных духоўных сувязей паміж пакаленнямі беларусаў.

## Аповесць пра словы КАСА

**2.**Каса як зброя падаецца з наступным азначэннем: ***зброя, якая мае шырокую рэзальную частку, шырокае лязо....***

У "Гістарычным слоўніку беларускай мовы" т.16. прыводзяцца наступныя пісьмовыя звесткі пра касу, як зброю:***ороужья ... иныи. как косы наряжены*** (Чэцця, 56б); ***нарядилис во изброи и с соулицами и со стрелами и с косами*** (Увар.,69); ***возъпиша сынове ізраилевы кs гсду богу, понеже девятьсот колесницъ с косами железными имеаше той*** (Скар. КС,10); ***уставуемъ ... абы зо всихъ земль панства ншог ... кось пожов стрэл и всякого иншого наряду военъного не выпускали и послом не продовали*** (Ст. 1566,39б); ***але другие инак пишут поведаючи, же обоя сторона долго однакое щастье в битве мела, аж на остаток Атыля будучы поражон, утекъ до обозу возми косами осажоными заточоного*** (Атыла, 197); ***мели перси вs своем воsску осмьсот убраных на служьбу слонов великих зверес, мел р и к тисячес ездных, тисячу возов з косами, то все згубил и сам цар перски ледво утекль*** (Бельск., 246).

З іх відаць, што ***косы,*** як зброя прымяняліся ў глыбокай старажытнасці, яшчэ на калясніцах. Калясніцы вынайшлі нашы далёкія, найбольш далёкія з вядомых, але наўпроставыя прашчуры — хеты. Я ўжо недзе згадваў, што назва сталіцы хетаў **Хатус (Хатусас)** абазначала проста **"Хаты"**, як назвы нашых гарадоў Гародня, Гарадок, Гарадзея, Наваградак абазначаюць проста горад (малы горад, новы горад). *(На свеце недзе існуе слоўнік хецкай мовы, але на тэрыторыі Беларусі яго няма. А мо я мыляюся, то, калі б хто падказаў, як яго знайсці, гэта паслужыла б Беларусі.)*

Вынайшаўшы калясніцы хеты прымянілі на іх гэтыя самыя косы, доўгія насаджаныя на аглоблі і прывязаныя да колаў палосы жалеза. Сваімі калясніцамі хеты разграмілі палову айкумены. Разбілі Егіпет, узялі Вавілон, дайшлі да Індыі і заснавалі там арыйскую цывілізацыю.

Але траву хеты не касілі. У гэтым не было патрэбы. Такім чынам ***каса***, як зброя існавала раней, чым ***каса***, як прылада працы. Хеты ўзялі Вавілон за 1,5 тысячы гадоў да нашай эры. Арыі з'явіліся ў зоне глыбокіх снягоў у 8 -6 стагоддзі да н.э.. Разрыў гадоў у 700.

Як называлася баявая каса ў хетаў я не ведаю, але наш вывад назвы ***касы*** ад санскрыцкага ***ksa*** дае падставу гаварыць, што і ***баявая каса*** магла мець нейкую сугучную назву.



Касінеры. Бітва пад Рацлавіцамі. 1794 г. Паводле А. Арлоўскага. На пярэднім плане баявая каса.

З калясніц каса перайшла ў разрад ручной зброі.

У мастацкіх творах часта сустракаецца фрагмент, як украінскі селянін прымяняе турэцкі ятаган (хто не ведае, меч, завострaны з увагнутага боку) у якасці касы. Дык ці не маглі калісці і баявую касу скарыстаць для касьбы. Калі гэта так, то назва, безумоўна, перайшла з баявой на працоўную. Тады ў аснове слова ***каса*** ляжыць дзеяслоў ***рэзаць***. І нашыя развагі правільныя.



Інда -арыйская калясніа. Сучаснае ўяўленне. Косаў тут не відно, але гэта парадны малюнак. Рэальна ўсё было грубей і прасцей.

Пазней, ужо ў амаль наш час наадварот рабочыя косы прымянялі ў якасці зброі. Аддзелы касінераў Касцюшкі, Ясінскага, Грабоўскага, Каліноўскага, Урублеўскага ўвайшлі ў гісторыю.

Прыдзірлівы лінгвіст можа задаць пытанне, чаму ў нас усе гэтыя словы так цесна пераплецены між беларускай мовай і санскрытам і чаму не відно такога перапляцення для тых жа словаў у нямецкай, ці летувіскай мовах. Справа ў тым, што:

1) мы разглядаем словы выбарачна, бяром тыя, якія сапраўды маюць даўнюю арыйскую традыцыю. Такіх слоў, але іншых, дастаткова і ў германскіх і ў балцкіх мовах.

2) беларуская мова гэта найбольш старажытная форма славянскіх моваў.

Таму тое, што ёсць у нас не абавязкова павінна быць у іншых славянскіх мовах, але, што ёсць у іх, у нас як правіла або ёсць, або было.

*Працяг у наступным нумары.*

Станіслаў Суднік.

*У 1944 годзе ў Нью-Ёрку Беларускі Інстытут навукі і мастацтва выдаў збор твораў Уладзіміра Дудзіцкага "Напярэймы жаданням", які трапіў у Гародню. Яго можна знайсці ў бібліятэцы "Спадчына" — Маладзёжнага Цэнтра культуры імя К.Каліноўскага. (вул. Савецкая 31, пакой 12. Тэл. 47-04-18).Да беларускага чытача вярнуўся выдатны пісьменнік — кінааўтар прадмовы Лявон Юрэвіч — З чужыны, з выгнаньня, на сваю бацькаўшчыну.*

*І няхай ніколі не паўторыцца мінулае, няхай ніколі не будуць выгнаннікамі сыны Беларусі!*

*Чытаючы змешчаныя ў зборніку творы, прасякнутыя любоўю да шматпакутнае Бацькаўшчыны, увасобіўшыя трагічныя падзеі веку, я звярнуў увагу на верш у прозе "Песьня". Усхваляваў мяне сваёй выразнасцю, тугой па Радзіме. Лічу, напэўна, ніхто з вядомых пісьменнікаў і крытыкаў не сказаў лепш чым Ул. Дудзіцкі аб беларускай песні. " ... Не памруць, не загінуць бяз сьледу, хоць песні чужыя збіваюць іх з кроку. Яны яшчэ жывыя і грымнуць над сьветам да зораў Імя Беларусі".*

*Прачытайце гэты верш!*

***Мельнікаў Мікола, дацэнт ГрДУ імя Я.Купалы***
***удзельнік ВАВ***
***1 кастрычніка 1998 года.***

# Песьня

Хто ж не чуў Цябе і не жыў Табой, несмяротная беларуская Песьня! І чулі, і жылі, і самі спявалі, і іншых пяшчотнымі гукамі музыкі цешылі. І найлепшым баўеннем сэрца і душы чалавечай была Ты, цудоўная нашая Песьня ...

Удзень і ўначы, у хаце сумной — на Радзіме, і недзе далёка — на землях чужых і варожых, у горы і шчасці, у дзень нарадзінаў і смерці — заўсёды і ўсюды — звінеў, не змаўкаў непадкупны, адменны, наструнены голас Зямлі Беларускай.

Расла і ішла Ты ад мора да мора, за стромыя горы і пушчы ставечныя, праз вільгаць туманаў балотных сягала і немарач твані; на крылах вятровых наўсуперак лёсу плыла і мацнела пад сонцам, пад зорамі неба блакітнага свету.

І сяння жывеш — не скараешся, родная, мужная Песьня народу! І толькі часамі Твой голас, сумны і надрыўны, ад болю змаўкае і падае ніцма на жораст, сухі і калючы, каб потым, акрэпшы, напіўшыся соку зямнога, узняцца вышэй 'шчэ, скрануць нежывога і горам прыбітага брата словам сваім абнадзеіць.

Ні вецер ільдзінага мора, ні спёка паўдзённая пустак не спыняць Цябе, не скуюць і не здушаць нідзе і ніколі, дарма што зняславіць наровяць дзікія, нязвыклыя, прышлыя зыкі. Нямеюць, пачуў я, спакусныя гукі і курчацца зводнікі цёмныя вуліц, адчуўшы Тваю векапомную славу.

І слухаюць людзі, чакаюць, ля крыжа укленчыўшы нема, прыходу забвення пад гром навальніцы, дзе стрэлы маланак, агністыя стрэлы, ўядаюцца хіжа ў цела жывое, і раніць шаленства атрутай смяротнай з уцехай на сцежках прыцмелых істоту.

Душа чалавека, як Песьня, — жывою не дасца ў рукі свайго ліхадзея! .. І смерць не здалее змагчы, сціхамірыць, хоць цела павісне на горкай асіне. Дух вечны, і вечнасць сілы узлёту глумлівыя сілы зямлі спакарылі.

Прабілася Песьня праз немарач даляў ... Спатоліўшы сілы ў дарозе нялёгкай, упала ад стомы на сівыя скалы, і ... песьню спынілі халодныя Альпы. Галосяць і б'юцца аб камень зімшэлы абрыўкі мелодый далёкага Краю, і стогнуць журботна, налітыя гневам, у лёхах маўклівых падбітыя рытмы .. Дарма... Не памруць, не загінуць без следу, хоць песьні чужыя збіваюць іх з тропу. Яны 'шчэ жывыя і грымнуць над светам, узнёсшы да зораў імя Беларусі.

Ліпень 1946

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная рада:***
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 26. 10. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 2537.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.